

# Ніва



ГОД I № 10 БЕЛАСТОК, 6 МАЯ 1956 г. ЦАНА 60 гр.

Міхаіл Ісакоўскі

## Слова аб Расіі

Совецкая Расія —
Ты маці нам усім!
Назваць твой подзвіг словам
Мне велічным якім?
Якою звонкай славай
Уславіць веліч спраў?
Якою змераць мерай —
Што твой народ зазнаў?

У баях з ардой варожай,
У час нялёгкіх бед,
Ад гібелі страшное
Ты ўратавала свет.
Ішла ў агонь і ў пекла,
Праз куль свінцовых град,
Ты клалася пад танкі
Са звязкамі гранат;
У падбітым самалёце
Кідалася з-за хмар,
Каб з полымем абрушыць
На ворага удар;
Грудзьмі ты прыкрывала
Варожы кулямёт,
Наперад каб салдаты
Ішлі без перашкод...
Цябе марылі морам
. нішчылі агнём,
Зямлёю засыпалі
На могілках жыўцом;
Цябе травілі газам,
Уздымалі на нажах,
вікамі прыбівалі
У фашысцкіх бліндажах.

Скажы, а колькі-ж, колькі
Не спала ты начэй
У палях, цэхах, забоях,
Ля доменных пячэй?
Па закліку на працу
Узнімаўся стар і мал:
Ты сеяла і жала,
І плавіла метал,
Лясы валіла долу,
Скарала гор хрыбты —
Цярпліва і сурова
Крыж цяжкі несла ты...
Ты ўсё перацярпела
І ўсё перажыла.
Такі цяжар адолець
Ты толькі і магла!
Калі-ж ты благаслаўляла
Багатыроў у бой,
Ты знала — будзе свята
На вуліцы тваёй!..

Скажы, якой-жа славай
Уславіць веліч спраў?
Якою змераць мерай
Шлях, што народ праклаў?
Ніхто вышынь на свеце
Не дасягаў такіх.
Вышэй ты ўсякай славы,
Гучней пахвал усіх!
І ўсе народы свету
За подзвіг у барацьбе
Удзячнасці паклонам
Паклоняцца табе;
Паклоняцца ўсім сэрцам
За веліч тваіх спраў,
За прыклад, што народ твой
Усім народам даў;
Што ты жыццё і праўду
Абараніць змагла,
Расія — маці наша —
Совецкая зямля!

**Пераклад А. БАЧЫЛЫ**



*Зоя Олекша з Новай Волі ў ролі Паўлінкі.* *Фото — Р. Сеськевіч.*

## Добры пачатак

Пасля якогасці там вясковага сходу ў Новай Волі, загадчык школы Васіль Нядзьведзь папрасіў Мар'ю Буйко і Настаўніцу Зою Олекша, каб заспявалі што-небудзь. Такія песні як: „Рабінушка", „Стэп ды стэп", „Вязень"; у выкананні гэтага дуэта, так спадабаліся для моладзі, што яны самыя вырашылі сарганізаваць хор і драматычны гурток.

У першыя запісаліся: Мар'я Доман, Мар'я Буйко, Мікола Паўлючук, Мікола Гайдук, Іван Серэда, Людміла Остравецкая, Мар'я Баўтручук і іншыя.

Загадчыкам гуртка мастацкай самадзейнасці стала Зоя Олекша, настаўніца школы. Ветлівая і цікаўная гэтая дзяўчына патрапіла так пакіраваць работай, што ўжо 8 снежня выставілі першую п'есу „Паўлінка" — Я. Купалы.

Насельніцтва не толькі Новай Волі, але і навакольных вёсак было вельмі ўсхвалявана. Дык гэта ад вякоў не бачылі і не чулі, каб на сваёй роднай мове была пастаўлена п'еса і да гэтага з народнымі ўборамі.

Глядзельны зал школы можа змясціць сорак чалавек, ну а што тады рабіць, калі паглядзець „Паўлінку" прыйшло больш чым дзвесце чалавек. Паўтаралі яны тады „Паўлінку" некалькі разоў і за кожным разам карысталася яна поспехам.

Заахвочаны поспехам „Паўлінкі" яны вывучылі другую п'есу Я. Купалы „Прымакі", якую выставяць 8 мая.

Жыхары Новай - Волі вырашылі пабудаваць новы клуб.

Будзе гэта вялікі, мураваны будынак 12x18 метраў з глядзельным залам на 120 асоб, з кабінай на кіно.

Ужо прывязлі 16 тысяч штук цэглы і праводзіцца падрыхтоўка да работ. Потым яны сарганізуюць музычны гурток.

Вось, як у Новай - Волі пачалося новае культурнае жыццё.

І. Р.

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



# ГІГАНЦКІ ПЛАН

**(Варыянт развіцця адзінай энергетычнай сістэмы Совецкага Саюза)**




1. — раёны развіцця цеплаэлектрастанцый.
2. — падстанцыі.
3. — гідраэлектрастанцыі, існуючыя і будаваныя ў шостай пяцігодцы.
4. — гідраэлектрастанцыі, будаваныя па-за шостай пяцігодкай.
5. — лініі электраперадач 400 кіловольт, існуючыя і будаваныя ў шостай пяцігодцы.
6. — лініі электраперадач на пастаянным току, будаваныя ў шостай пяцігод...
7. — прадугледжваныя лініі электраперадач 400 кіловольт, пабудова якіх плануецца пасля шостай пяцігодкі.
8. — магчымыя перспектыўныя напрамкі энергетычных сувязей.
9. — некаторыя важнейшыя існуючыя лініі электраперадач 220 кіловольт.
10. — важнейшыя магчымыя лініі электраперадач 220 кіловольт.

**СССР** — найвялікшая дзяржава свету, краіна казачных багаццяў, шырэзных рэк, неабдымных стэпаў, непраходных лясоў і найвысачэйшых гор.

У дарэвалюцыйныя часы гэтая вялізная краіна з'яўлялася папросту невыкарыстанай цалінай. Не кранутымі ляжалі вялікія запасы вугалю, жалезнай руды. Бескарысна, цэлымі вякамі, сплывала ў моры гіганцкая энергія водаў рэк, заміралі ад прагі вялікія абшары чарназёмнай, ураджайнай зямлі, выветрываліся бясцэнныя мінералы, гінула бязмежнае багацце цудоўнай краіны.

Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя вызваліла магутныя народныя сілы. Свабодны люд пачаў законна ўладаць сваімі багаццямі і належным чынам, па - гаспадарску, клапатліва выкарыстоўваць іх.

Вялікі правадыр рэвалюцыі В. І. Ленін сказаў тады памятныя словы: „Комунізм — гэта совецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны". Што абазначалі гэтыя словы? Словы гэтыя абазначалі адраджэнне чалавечай ініцыятыўнай творчай думкі, абазначалі пачатак пераможнай барацьбы за вызваленне чалавека з-пад уплыву цёмных, варожых чалавецтву сіл і накіраванне на вялікую, годную яго барацьбу са стыхіяй, з прыродай. Чалавек пайшоў у вялікае наступленне на прыроду, каб выдраць ей яе тайны і прымусіць іх служыць дзеля яго дабра.

У 1921 годзе была створана спецыяльная камісія па электрыфікацыі СССР т. зв. ГАЭЛРО. Быў распрацаваны гіганцкі план. Электратэхніка ў Расіі была толькі ў зародку. Наглядным прыкладам можа паслужыць той факт, што каб паказаць дэлегатам VIII З'езда Саветаў светавую карту будучай электрыфікаванай краіны, — трэба было выключыць электрычны ток ва ўсёй Маскве.

У сучасны момант распрацоўваецца план суцэльнай электрыфікацыі Совецкага Саюза т. зв. план АЭС — інакш: адзіная энергетычная сістэма. Пабудуецца рад магутнейшых у свеце ГЭС. На тэрыторыі СССР узнікнуць новыя вялікія водасховішчы, створацца новыя водныя шляхі зносін, зменіцца клімат на тэрыторыі мільёнаў квадратных кілометраў.

Прагнучыя вады пустыні будуць пераўтвораны ў багацейшыя краіны нашай зямлі, пакрытыя квітнеючымі садамі і стэпамі калоссяў неаглядных палёў. „План АЭС, — гэта вышэйшая форма электрыфікацыі краіны. АЭС уяўляе сабой аб'яднанне энергетычных сістэм" — сказаў член-карэспандэнт Акадэміі Навук СССР В. І. Вейц.

План АЭС будзе складацца з двух магутных энергасістэм.

Першая з іх будзе знаходзіцца ў Еўрапейскай частцы СССР. Такія гідраэлектрастанцыі, як Куйбышэўская, Сталінградская, будуць аб'яднаны з Цэнтральнай, Поўднёвай і Уральскай энергасістэмамі. Дзеля таго будуць пабудаваны лініі электраперадачы напружаннем 400 кіловольтаў — інакш, 400.000 вольтаў. Такім чынам будуць злучаны станцыі, выпрацоўваючыя звыш палавіны ўсёй электраэнергіі СССР.

Адначасова будзе ствараецца адзіная энергетычная сістэма Цэнтральнай Сібіры — ад Кузбаса і Новасібірска да Іркуцка. У адно суцэлае звяжуцца Грузінская, Азербайджанская і Армянская энергасістэмы. Зараз разведвальнікі выяўляюць магчымасці выкарыстання гідраэнергетычных рэсурсаў Якутыі і Далёкага Усходу.

Дзеля чаго гэта ўсё робіцца? Чаму злучаецца ўсе электрастанцыі ў адзіную энергетычную сістэму?

Цэнтралізацыя энергагаспадаркі забяспечыць, у першую чаргу поўную сістэматычную нагрузку і значную эканомію паліва на цеплаэлектрастанцыях. Калі электрастанцыя працуе адна, то яна ноччу мусіць выпрацоўваць больш электраэнергіі, а на дзень частку агрэгатаў спыняць. Неабходнымі яшчэ з'яўляюцца ёй т. зв. запасныя агрэгаты. Такая „адарваная ад свету" электрастанцыя працуе вельмі няроўнамерна і неэканамічна. А цяпер калі мы ўсе гэтыя электрастанцыі злучым пры дапамозе ліній высокага напружання, то выпрацоўваемую электраэнергію паасобныя электрастанцыі будуць дасылаць, на адну сістэму — лінію. Такая сістэма ахопіць вялікую тэрыторыю і будзе вельмі выгоднай у эксплуатацыі.

Да прыкладу возьмем такі факт: Ноч надыходзіць з усходу. На Урале, напрыклад, змярканне пачынаецца на 2 гадзіны хутчэй чым у цэнтральных вобласцях. Так, што адныя і тыя-ж самыя агрэгаты выпрацоўваюць ток спачатку для Свярдлоўска і Чалябінска, праз гадзіну — для Куйбышэва і Сталінграда, а яшчэ праз гадзіну — для Масквы і Кіева. Як бачыце агрэгаты на паасобных электрастанцыях не трэба выключаць. Працуюць яны цэлыя суткі з поўнай нагрузкай. Садзейнічае гэта значнаму змяншэнню перапалу паліва на цеплаэлектрастанцыях, з прычыны няроўнамернай нагрузкі.

Недалёкі той час, калі магутная плынь электраэнергіі разліецца морам агнёў асвяціўшы вёскі і пасёлкі Цэнтра, Паволжжа і Урала. Прывядзе яна ў дзеянне мільёны машын на калгасных палях, фермах і дварах. Яе магутная сіла дазволіць аўтаматызаваць найбольш працаёмкія галіны прамысловасці — без электраэнергіі немагчыма-ж аўтаматыка.

Кошт кіловат-гадзіны будзе, параўнальна, вельмі малы. Да прыкладу на Куйбышэўскай і Сталінградскай ГЭС кіловат-гадзіна будзе каштаваць менш чым паўтары капейкі!

Сягоння мы ў вытокаў нараджэння АЭС.

Апрацаваў К. ЯНОВІЧ

---




(9)

А паблізу ад нас сядзіць дзяўчынка. Злажыўшы на каленях рукі і ўспёршыся на іх дзіцячым вострым падбародкам, яна глядзіць на нас, не зводзячы вачэй. Так глядзела і ўчора, і пазаўчора... Па некалькі разоў на дзень з-за чорнай горбы вуголля, дзе домікі рабочага пасёлка, чуваць жаночы голас: «Эры-ка-а!» І калі гэта слова паўторыцца некалькі разоў, дзяўчынка паволі, відаць, неахвотна ўстае і ідзе. Пасля прыходзіць зноў, і зноў глядзіць. Нястомна, моўчкі, не зводзячы чорных вялікіх вачэй...

Вуголле, комін і Кумбір — усё засталося далёка на захадзе. Навокал іржышча, аўсяныя домікі бабак. Над намі — ціхі, азораны акіян. Я міжвольна — ад думак пра тую дзяўчынку — падцягваю стомленыя ногі і, паклаўшы на сагнутыя калені рукі, апускаю на іх галаву. А дзяўчынка стаіць у вачах, як жывая, як тут. Столькі болю і столькі надзеі ў яе не па ўзросту сталых вачах. І я чытаю ў іх, як і тады, адно бязмоўнае пытанне: «Ці праўда гэта, што ты — мой найлепшы друг?..»

«Ты — мой найлепшы друг!..» Гэтак казаў нам немец Карл, стары рабочы на заводзе Кумбіра. Разам з Карлам мы, Мікола і я, разладоўвалі акумулятары без рукавіц, і разам з ім апарылі кіслатою рукі. Абураны Карл крычаў на ўвесь цэх, паказваючы рукі інжынеру. Яны былі знізу мазольныя, зверху — худыя, як рукі нашых бацькоў. А «гер інжынір», верны слуга сваіх гаспадароў, усміхаўся. «Та-ак, — сказаў ён, — цяпер табе можна, бадай, і рукавіцы выдаць»... І горш за ўсё, што разам з інжынерам смяяліся тады тры іншыя немцы, падлеткі, якім на гэты раз пашанцавала не апарыць рук. Не смяяліся толькі Мікола і я. Пасля Мікола нават пачаў — больш жэстамі, чым нямецкаю мовай — тлумачыць юнакам, што ўсё гэта зусім не смешна. А Карл — бязвусы, маўклівы стары ў сініх штоніках, палатаных да апошняй магчымасці, з лустачкай хлеба ў кішэні таксама палатанай курткі, — Карл падышоў да Міколы, падаў яму руку, сказаў: «Ты — мой найлепшы друг!»

У Карла мы і спыталіся потым, чаго так дзіўна глядзіць на нас каторы дзень малая Эрыка. Азірнуўшыся навокал, стары ледзь не шэптам пачаў: «Вам я скажу. Бацька яе, рабочы Віллі Кляйн, быў комуніст. Цэлая група была комуністаў на гэтым заводзе. Пасля іх забралі ў канцлагер, ужо ў трыццаць сёмым годзе. У гэтым коміне быў замураваны архіў. Дзяўчынка ведае, што вы з Расіі і яна... Але ціха! Давайце працаваць», — закончыў ён і зноў узяўся за лапату. Мы азірнуліся. Нікога не было, нават фашысцкага ценю, — чаго ён спалохаўся? Карл зразумеў наша здзіўленне, выпрастаўся ад вуголля і, успёршыся на цяжкую лапату, з добрай усмешкай сказаў: «вораг чуе». Такія плакаты віселі навокал, і так іх вытлумачыў па-свойму чалавек, што ў нас убачыў сяброў.

І вось я сяджу на аўсяных снапах, пазіраю ў нябачныя чорныя ціхія вочы дзяўчынкі і ледзь не ўголас кажу ёй:

«Так, Эрыка, я — твой найлепшы друг. І я, і Мікола, і дзядзька Калодка, і многія, многія тысячы нашых сяброў...»

— Шкада малое, — азваўся раптам Мікола. Задумана, ціха.

— Вядома, — сказаў я адразу, нібы пра Эрыку не толькі ўспамінаў, а гаварыў уголас. А потым, схамянуўшыся, спытаў: — Каго шкада?

— Каго-ж.. Вярнулася недзе з хлебам, хадзіла па лесе і кукавала. А можа і плакала... Эх!..

Хвіліну мы маўчым.

Працяг будзе

